ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1964 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.
У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.
У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:
Mr. Antony Bielenis, 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinojs, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:
Mr. Pituška, 31 Noble Str., Toronto, Ont. Canada.

У Нямеччыне:
Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

---

УВАГА: Да ўсіх беларускіх выдавецтваў зьвертаемся з просьбай прысылаць у нашу Рэдакцыю свае выданьні газэтаў, часапісаў, друкаў. Мы будзем сыстэматычна зьмяшчаць іхні агляд і даваць рэцэнзіі.

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.

## ЗЬМЕСТ

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год. XII ЛІПЕНЬ - ЖНІВЕНЬ 1964 № 85


# Папа Ян XXIII і яго апошняя энцыкліка

Анёл-Язэп Ронкальлі да сваіх выбараў у 1958 г. на пасад Сьв. Пятра мала каму быў ведамы на шырокім сьвеце. А і пасьля выбараў (меў ужо 77 г.) мала чым адзначаўся — аж нават сьмяяліся над ім у Рыме, называючы толькі «пераходным старым», які не кяруе Царквою, а толькі «багаслаўляе». Аднак пакрысе Ян XXIII стаў узрастаць у людзкіх вачах: пачалі называць яго «Пробашчам усяго сьвету», «Добрым», «Простым» і другімі мянюшкамі, якія сьведчылі, што ён цалкам «Чалавек людзкі».

## I

## ДЗІЎНЫ ЧАЛАВЕК

Ад самага пачатку свайго пантыфікату ён задзівіў сьвет: выбраў сабе імя Ян ... Ужо шэсьць вякоў такога імяні ні адзін папа ня браў. Якая прычына пабудзіла Язэпа Ронкальлі, што ўзяў імя Ян? Дасюль быў звычай, што новы папа браў імя такога папярэдніка, якога хацеў насьледаваць. А Ронкальлі сказаў: «Мой бацька быў Ян, дык і я бяру гэтае імя». Сапраўды, зусім «вясковая» прычына! І на дзіва Папа Ян XXIII умеў даваць загады ў важных справах, не зважаючы на перашкоды, а проста як-бы жартуючы.

Так у справе Сабору: неспадзевана абвесьціў Сабор у першым сваім годзе. А тлумачыў тым, што пачуў такое «натхненьне». Пасьля, калі пачаліся гутаркі аб тэрміне і дарадчыкі тлумачылі, што раней 1965 ніяк не пасьпеюць прыгатавацца, Папа Ян пытаў: «А на 1963 г. ці патрапіце прыгатавацца?» Адказалі: «О, не!» Тады ён кажа: «Калі ня можаце прыгатавацца на 1963, то я адчыняю Сабор у 1962!» — «Ах!» і «Ох!». І вось сталася: Сабор адчыніўся ў 1962.

Калі на першай працэсіі несьлі яго ў урачыстым крэсьле, дык пасьля запытаўся, сьмяючыся: «Ну, што? новы папа цяжэйшы ад папярэдніка?» А тыя насільшчыкі-мужчыны здаравенныя! Яны тут ня ведалі, што адказаць. Дык Папа Ян гаворыць: «Калі так, то трэба вам далажыць пэнсіі». І адразу далажыў усім працаўніком у Ватыкане.

Адменна ад папярэднікаў ува ўсіх важных мамэнтах любіў перайсьці на таварыскі тон, або на зручны жарт.

У дарозе да Лёрэто, едучы цягнікам, выходзіў на пэрон і гутарыў з народам. На адной станцыі начальнік выйшаў і загаварыў да Папы Яна: «Ці помніце Вы, як на гэтай самай станцыі ў маладых нашых гадох (а я быў тады тут простым работнікам!) мы з Вамі гаманілі доўга, вельмі доўга?» Папа Ян адказаў: «Вось бачыш, як усё перамянілася! Ці-ж тады мог-бы хто ўгадаць, што мы з вамі так высока заедзем?»

Такія простыя, але глыбокія жарты сьведчаць аб розуме і дабраце, аб зручнасьці і адвазе, аб далікатнасьці і вясёласьці Вялікага Чалавека. І гэта важная адзнака глыбокае сьвятасьці. Кажуць, што Хрыстос ніколі не сьмяяўся. Але-ж адкуль такая ўпэўненасьць? Праўда, Эвангельле ні разу не гаворыць аб Гасподнім сьмеху; аднак ёсьць адзнакі Хрыстовай вясёласьці, жарту, дасьціпу, іроніі, дык мусіў ягоным быць і сьмех.

Ужо як меў Ісус 12 гадоў, у першым Ягоным слове чуем прыцінак, які дае сваей Маці: «Нашто-ж вы мяне шукалі?» А калі хацеў прыстыдзіць апосталаў, калі зачыняў вусны фарызэям і садукеям, калі зьбіваў у двух-трох словах кніжнікаў — усё гэта паказывае Ягоную моц душы, ясны розум Божага Чалавека, добрасць, ласкавасьць, любоў, справядлівасьць, якой чалавецтва датуль не спатыкала. Трапныя Хрыстовыя сказы і прыказкі ўвайшлі ў літэратуру і ў культуру ўсіх народаў сьвету.

## СЬМЕХ

З усіх жэстаў, з усей мімікі сьмех найлепш выражае адчуваньне чалавека. Сьмех — здольнасьць выключна людзкая: ніякая жывёла, нават найспрытнейшая, не засьмяецца. Сабака, хоць трапіць выканаць самыя трудныя вонкавыя фокусы, а часам перасьцігае ў спрыце чалавека:

зводзіць, дражніць, прыкідываецца, правакуе, бязьмерна весяліцца і даводзіць людзей да сьмеху, а сам сьмяяцца не патрапіць. Малпа, хоць імітуе, згадвае, вынаходзіць спосабы гульні, сумуе, весяліцца, а не сьмяецца. — Гогаль гаварыў, што сьмех — гэта наймацнейшае аружжа. Найбольш яго баяцца і мсьцяцца нягодныя тыраны (як Гітлер, Сталін). Сьмех — гэта цэнная пэрла, зьзяючы брыльянт. Але і пэрлы бываюць падробляныя і такія ня маюць ніякае вартасьці. Так і сьмех. Бывае сьмех злосны, зайздросны, пусты, шалапутны, бязглузды, ці найгорш — распусны. Бывае таксама сьмех для паніжэньня чалавека і ўзвысшэньня сябе: гэта сьмех ганарысты. I яшчэ ёсьць сьмех чыста шатанскі — для паніжэньня дабра і цноты, калі нягодныя людзі рэклямуюць зло замест дабра! Такім сьмехам найболыш арудуюць бязбожнікі: іхны сьмех абавязкава лучыцца з няпраўдаю і тэрорам. Так ворагі высьмейвалі ўкрыжаванага Хрыста і так Маякоўскі высьмейваў Бога, а наш М. Танк — Найсьвяцейшую Дзеву Марыю.

Сапраўды, бедны і няшчасны такі чалавек, які ніколі не сьмяецца, ці — яшчэ горш — калі ня ўмее сьмяяцца! Пісьменнік, мастак, артыста слова, пэндзэля, долата, гармоніі..., калі абражаецца за крытыку, калі мае заўсёды сур'ёзную міну і пяро, або калі ня ўмее сьмяяцца, дык не трапляе да сэрца і не пакідае трывалага, абгрунтаванага і прывабнага сьледу ў сваіх творах. Такіх пісьменнікаў кніжкі стаяць, ляжаць, але ня ходзяць, не разьбягаюцца. Могуць быць вельмі карысныя, неабходныя, разумныя і моцныя, але ня ходкія і так могуць загінуць. Яны, як тая незаскваранная, незабеляная, нішчымная яда, не пацягіваюць.

Вялікая страта для народу, асабліва ў пэрыядзе адраджэньня, калі бракуе пісьменнікаў, якія-бы імпанавалі, як Крылоў, Сенкевіч, Гогаль. Беларускі народ з натуры гумарысты: ўмее сьмяяцца, як сьведчаць ягоныя прыказкі, жарты, казкі, лягенды... А савецкі прымус бянтэжыць людзей; таксама, дзеіць камуністычны заказ на гумар, праграма гумару і штучнасьць. А на эміграцыі марнуе наш гумар расчараваньне, нявера ў свае права, ці ў свой талент, а так-жа бізнэс, грашалюбства, п'янства, ізаляцыя паміж чужынцамі, беднасьць...

Мы далёка адыйшлі ад галоўнай тэмы. Але гэтае разважаньне паможа нам лепш зразумець Чалавека, які праз свае цноты стаўся багацьцем усяго чалавецтва — такі быў папа Ян XXIII! Характэрна, як у ім злучылася сьвятасьць з прастатою, павага з гумарам, а мудрасьць з любоўю. Вось якіх выхаваўцаў патрабуе наш бедны, хоць і вучоны, сьвет! I не дарэмна ўвесь сьвет дамагаецца, каб Царква прызнала папу Яна сьвятым. Як ён умеў сьмяяцца, як жартаваў з сябе самога, як цярпліва слухаў крытыку — часта нават няўмелую ці памылковую!

## «23-ЦІ»

У Папы Яна з гэтым нумарам выйшла нешта цікавае. Звычайна кажны папа, паводле найдаўнейшай традыцыі, мусіць перамяніць сваё хроснае імя і выбраць новае. Пры новым імені звычайна ставіцца парадкавы нумар: значыць, далейшыя папы будуць мець нумары залежна выбраных імён, напрыклад — Пій XIII, Ян XXIV, Павал VII, ці Грыгор XVII і інш. А з нумарацыяй папаў Янаў гісторыя мела клопат, так што нумар «Ян XXIII» быў няпэўны і мусіць дзеля таго папы перасталі браць імя «Ян»... Аднак кардынал Язэп Ронкальлі як-бы не зьвярнуў увагі на гісторыю і назваў сябе Янам XXIII-ім... А можа гэтая лічба мела якое значэньне ў ягоным жыцьці? Аднак нічога такога ня бачым, апрача таго, што меў 23 гады, як стаў сьвятаром.

Дый нас зацікавіць нейкае супадзеньне ў наступных зьявах: Каранацыя папы Яна XXIII выпала ў 23-ю нядзелю пасьля Зялёсых Сьвяткоў. I ў першай групе назначыў 23 кардыналаў.

I наагул усе крокі гэтага «пераходнага» папы, на якога мала рабілі надзеяў, былі такія паважныя, што ён перавышыў за 4 гады і 7 месяцаў шмат вялікіх папаў, нават кажуць аб ім, што гэта адзін з найбольшых папаў на ўсе вякі! Кажуць, што праз яго Каталіцкая Царква стала як-бы другою. Кажуць, што на ім споўнілася тое легендарное прароцтва, якое называла «Пастыр і марак» ці «навігатар», бо Ян XXIII выканаў загад самога Госпада, які сказаў Пятру: «Заедзь на глыбіню!» і там залавілі такое мноства рыбы, што аж рваліся іх сеці. Пляны, якія меў у думках Ян XXIII і якія пачаў спаўняць праз Сабор, адзначаліся непамерным размахам — гэта поўная абнова Царквы — дастасаваньне яе да сучасных абставінаў. Такая адвага старога чалавека непамерна ўсіх дзівіла. Але нарэшце гэтымі ідэямі праняліся ўсе лепшыя сілы ў Царкве. I вось, як Сабор сабраўся ў 1962 г., тады цэлы сьвет убачыў, што Ян XXIII ведаў, што робіць і што ягоныя пляны былі вельмі трапныя і глыбокія.

Мы аднак мусімо ў другой частцы артыкулу перайсьці да Энцыклікі «Мір на Зямлі».



*Папа Ян XXIII*

II

## «МІР НА ЗЯМЛІ»

«Слава на вышынах Богу і на зямлі мір людзям добрае волі!» (Лука 2, 13). Гэтымі славамі хор анёлаў зьвеставаў усяму сьвету факт Нараджэньня Збавіцеля. Але на працягу 20-ці вякоў ўвесь сьвет ня супакоіўся: войны трывалі бяз перапынку, толькі з хвілінамі супакою. А найгорш адзначыўся наш век 20-ты! Дзьве Вялікія Войны давяршылі гэтую немарасьць атомнай бомбай. І вось чалавецтва стала перад сусьветнай катастрофай: дзьве найбольшыя дзяржавы прыгатавалі гэтулькі атомных бомбаў, што паграждаюць людзям найгоршымі мукамі і згубай нашай плянэты.

Папа Ян XXIII, прачуваючы свой адыход з зямлі, ня мог спакойна ўмерці, не падаўшы свайго магутнага голасу ў абароне сьвету ад шалёных і «злых моцаў». Так зьявілася Энцыкліка «МІР НА ЗЯМЛІ».

Аб гэтым *Пасланьні-энцыкліцы,* што Папа Ян XXIII выдаў 2-га красавіка 1963 г., на ўсім сьвеце шмат гаварылася і пісалася: людзі надта цікавіліся і дзівіліся, а некатарыя нават горшыліся. Чаму так? Бо Рымскі Папа зьвярнуўся ня толькі да вышэйшага духавенства, але да ўсіх «людзей добрай волі», нават да няверучых і парушыў найбольш моцныя і чулыя струны людзкога розуму і сэрца, ды абвесьціў справу неабходную для ўсіх — «*Мір на зямлі*». Папа выступіў з гэтай справай, як з прадсьмертным тэстамантам і ахвяраваў Богу сваё жыцьцё за «мір на зямлі». Учыніў гэта супраць сваіх дарадчыкаў і ў вельмі трудным часе для каталіцкае Італіі — перад самымі выбарамі ў парлямант...

З усіх абставінаў бачым, які важны быў той факт, той дзень — і якраз гэта быў Вялікі Чацьвер, калі Сам Хрыстос устанавіў Сьвятую Эўхарыстыю — АХВЯРУ ЗА ГРЭШНЫ СЬВЕТ, А ВЕЧАРАМ САМ АДДАЎСЯ Ў РУКІ ВОРАГАЎ. І Папа Ян сам ахвяраваўся — бачым, якая была яго адвага і рашучасьць!

Папа Ян пражыў 81 год, а сьмела можамо сказаць, што ўсё ягонае жыцьцё было прыгатаваньнем да гэтага вялікага здарэньня — да гэтае Энцыклікі «*Мір на Зямлі*». І ня толькі адзін раз яна прагрымела, ажывіла, ўцешыла, ці напалохала людзей, але асталася на заўсёды прадметам разважаньня і студыяў для ўсіх грамадзкіх дзеячоў.

Дзеля таго і мы, Беларусы, мусім пазнаёміцца з гэтым важным дакумантам і выкарыстаць яго для свайго духовага адраджэньня.

# Так пачынаецца энцыкліка:

«МІР НА ЗЯМЛІ», да якога так прагна імкнуцца людзі ўсіх часоў, можа быць адбудаваны і ўмацаваны толькі пры захаваньні парадку, устаноўленага Богам». —

Далей Папа Ян XXIII гаворыць, што поступ навукі і тэхнікі сьведчыць аб тым, які цудоўны парадак існуе ў сьвеце і якія вялізныя сілы закаваныя ў тайнах прыроды. А Бог даў людзям здольнасьць пазнаваць, выкрываць і карыстаць з тых магутных сілаў і законаў прыроды, каб аблягчыць жыцьцё на сьвеце.

«І пры гэтым чалавек можа бачыць, якая веліч і магутнасьць Бога-Стварыцеля сьвету! Ужо 3 тысячы гадоў таму, як дзівіўся Божай Прамудрасьці Псальмісты, Прарок Давід, кажучы: «Якжа многа, о Госпадзе, твораў Тваіх! Усё Ты прамудра стварыў ... Шукайце Госпада і сілу Яго». (Пс. 103, 24).

Але што дзеіцца на зямлі? Калі сьвет такі стройны, калі колы сусьветнай машыны — ад сонцаў да атомаў і да электронаў — ходзяць бязупынна і нястрымна, калі бяздушныя творы выконваюць закон прыродны і Божы, дык чалавек — разумнае тварэньне — хістаецца, ці зусім адмаўляецца служыць Богу, ламае Божыя і прыродныя законы — на сваё гора, на нешчасьце другіх і на абразу Божую. А пасьля, папсуўшы парадак, чалавек хоча паправіць шкоду не разумнымі сьродкамі, але СІЛАЙ-ТЭРОРАМ...

З гэтага плывуць няпраўды, крыўды, голад, войны і пагражае найгоршае зло — атомная вайна, якая можа прынесьці сьмерць усяму жывому на зямлі.

*а. Я. Г.*

*(Далей будзе)*


# ФОНД РАЗБУДОВЫ

## ШКОЛЫ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА Ў ЛЁНДАНЕ

ГЭТЫМ ЗЬВЯРТАЕМСЯ ДА ЎСІХ СУРОДЗІЧАЎ З ГАРАЧАЙ ПРОСЬБАЙ ДАПАМАГЧЫ САБРАЦЬ ГРОШЫ НА РАЗБУДОВУ НАШАЙ БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ Ў ЛЁНДАНЕ.

МАЕМО ЎЖО БОЛЬШ КАНДЫДАТАЎ ЧЫМ МЕСЦА, ДЗЕЛЯ ТАГО НЕАБХОДНА ПРЫСТУПІЦЬ ЧЫМ ХУТЧЭЙ ДА ПАБУДОВЫ НОВАГА ДОМУ.

ПАТРЭБА НАМ САБРАЦЬ 30.000 АНГ. ФУНТАЎ. АДПАВЕДНЫ ПЛЯЦ ДЛЯ ШКОЛЫ Ў НАС УЖО ЁСЬЦЬ.

БРАТЫ! ВЯЛІКАЯ МЭТА ПЕРАД НАМІ: ДАПАМАЖЭЦЕ!

Усе ахвяры просім прысылаць на адрас Кіраўніка школы:

**Rev. J. Hermanovič, Marian House, Holden Avenue, London. N. 12, England.**

*† ЧЭСЛАЎ СІПОВІЧ*
*Бп. тыт. Марыямітанскі*
*Апостальскі Візытатар Беларусаў*

*а. Леў Гарошка, Рэктар*

*а. Язэп Гэрмановіч*

*а. Аляксандар Надсон*

# Царкоўная музыка на Беларусі

*(Заканчэньне)*

*4. Адраджэньне (ад 1880 г. да сяньняшняга дня).*

Абуджэньне беларускага нацыянальнага і культурнага жыцьця у другой палове XIX-га стаг. мела спачатку вельмі слабы водгук у галіне царкоўнае музыкі. У першых гадох XX-га стаг., асабліва ў часе кароткага пярыяду беларускай нацыянальнай незалежнасьці і пазьнейшай польскай акупацыі (1918-1939), некаторыя кампазытары, як Анцаў, Тэраўскі, Ул. Туранкоў, Ягораў і Мацісон напісалі некалькі паралітургічных твораў. Дзяк Якаў Семашка (дзейнічаў у 1926-40 г.) стараўся увесьці нацыянальныя элемэнты ў сьпеў ведамаго хору ў Далятычах. Ягоныя творы асталіся нявыданымі. Вельмі добры хор быў у Пінску ў часе архіяпіскапа Аляксандра Іназемцава. Дзякуючы гэтаму ерарху, які любіў музыку, выданы ў 1929 г. «Палескі абіход», які сярод пераважна маскоўскай музыкі, мае ў сабе ці мала арыгінальных літургічных напеваў з-над Прыпяці.[67]

Важнай сувязьзю з старымі нацыянальнымі традыцыямі зьяўляюцца вясковыя дзякі на Падляшьсі. Вельмі часта яны самі нясьведамыя былі сваей ролі ахоўцаў старое беларускае царкоўнае культуры. Такімі ёсьць напр. дыяканы А. Вышэнка ў Сямятычах, Павал Цыбрук у Бельску Падляскім, Л. Мірановіч у Беластоку, Антон Аврэчук у Кляшчэлях і М. Міцэвіч у Плосках.

Абставіны не дазволілі Рыгору Шырме (радз. у 1892) прадаўжаць справу, якую ён так прыгожа пачаў перад апошняй сусьветнай вайною. Шырма пасьвяціў сваё жыцьцё зьбіраньню беларускіх народных песьняў і гімнаў. У 1938 г. ён сабраў у самым Пружанскім павеце 10 калядак. Ягоная любоў да царкоўнае музыкі ёсьць добра ведамай. Ягоны хор выступаў няраз з канцэртамі ў Вільні, а часам ён сам кіраваў хорам у тамтэйшым саборы, ідучы сьледам за украінскімі кампазытарамі А. Косічам і Гавронскім.[68]

*(6) Хэрувимская М. Равенскага*




Узначаліць нацыянальна адраджэнскі рух у галіне царкоўнай музыкі прыпала ў удзеле Міколе Равенскаму (1896-1953). У сваіх пошуках беларускага, якое-б магло заступіць «прыдворны» маскоўскі стыль Львова і Бахмецева, Равенскі зьвярнуў свой погляд на багатую спадчыну беларускай народнай музыкі. Стараючыся прытарнаваць гарманізацыі, а часам нават і мэлёдыі, больш простых народных песьняў да літургічных тэкстаў, ён атрымаў новыя кампазыцыі, часта немалой мастацкай вартасьці. Былы прафэсар Менскай кансэрваторыі, Равенскі быў таксама выдатным кіраўніком хору. На выгнаньні ён стварыў Беларускі Студэнцкі Хор у Лювэнэ ў Бэльгіі. Гэты хор выканаў нямала ягоных твораў, найбольш любімым з якіх ёсьць ягоная музыка да сьв. Літургіі.

Вельмі шкода, што за свайго жыцьця Равенскі ня меў змогі пазнаёміцца з напевамі Супрасьлскага Ірмалёгіёна. Ягоная гарманізацыя маскоўскага Знаменнага расьпеву (пракімены, алілуя, чын рукапалажэньня), зробленая на просьбу манахаў з Шэвтонь, сьведчыць аб ягоным глыбокім адчуваньні і зразуменьні старога царкоўнага сьпеву.[69]

Пасьля сьмерці Равенскага ягонае мейсца, як кіраўніка студэнцкага хору, было занята Кіслым, які стараўся прадаўжаць ягоную працу. У апошнім часе Кіслы жыве ў Амэрыцы і кіруе праваслаўным хорам у Кліўленд.

З сучасных кампазытараў, якія прадаўжаюць справу распачатую Равенскім, найбольш выдатным зьўляецца без сумліву Мікола Куліковіч (нар. у 1897 г.). Як і Равенскі, ён шукае новых узораў ў народнай музыцы пры адначасовым зацікаўленьні старымі беларускімі царкоўнымі напевамі. Куліковіч зьяўляецца вядучым беларускім музыкалёгам. У галіне царкоўнае музыкі ён зьяўляецца аўтарам Літургіі і выдаў шмат калядак і іншых пабожных песьняў. Ягоны хор

---

[67] Асабліва мілагучнымі у гэтым зборніку ёсьць «Ныне одпушчаешы» і «Сьвяты Божа».

[68] Гл. Ул. Чэмер «Новыя гарманізацыі беларускіх песьняў у выкананьні хору Р. Шырмы», Калосьсе, № 1, Вільня 1939, бач. 55–57.

[69] А. Карповіч, «Мікола Равенскі». Запісы Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва, Том 1 (2), Нью Ёрк 1952, бач. 104–107; Ул. Нямановіч, «На службе мастацтва й ідэі». Наперад, № 25, Лювэн 1953, бач. 20–24.

у царкве сьв. Спаса ў Чыкага (1961 г.) стаўся досыць ведамым дзякуючы выкананьням ягоных твораў. Магчыма найбольш выдатнай стараной творчасьці Куліковіча ў галіне царкоўнай музыкі зьяўляецца ягоная мастацкая гарманізацыя напеваў узятых з старых беларускіх ірмалёгіёнаў. Спалучаючы народны элемэнт з гэтымі старымі напевамі, Куліковіч атрымаў нешта новае і прыгожае і ўзьняў царкоўную музыку да ўзроўню нацыянальнага мастацтва.[70]

(7) *«Благослови душе» М. Куліковіча.*




Галоўны прадстаўнік цяперашняй царкоўнай музыкі на Беларусі, А. М. Валынчык (найбольш ведамы ў 1928 г.) астаецца прывязаным да маскоўскіх формаў. Ён быў кіраўніком царкоўнага хору, спачатку у Клецку, а пасьля у Слоніме і Навагрaдку. У 1947 г. ён быў назначаны настаўнікам музыкі і кіраўніком царкоўнага хору у праваслаўнай сэмінарыі у Жыровіцах. Абставіны змусілі яго пакінуць зусім галіну царкоўнага сьпеву у 1962 г.[71] З меншых прадстаўнікоў кансэрватыўнай школы трэба ўспомніць а. Пятра Гуткевіча, які быў спачатку кіраўніком хору, а пасьля пратаерэям у саборы сьв. Міколы у Беластоку. З ягоных твораў ведамыя дзьве «херувімскія», эўхарыстычны каноны і некалькі меншых вялікапосных кампазыцыяў. Усе яны былі напісаны у «прыдворным» маскоўскім стылю А. Львова.[72]

## ЗАКАНЧЭНЬНЕ

Некаторыя напэўна шкадуюць, што цяпер на Беларусі існуюць дзьве асобныя школы сьпеву — нацыянальная і маскоўская. Трэба аднак прызнаць, што маскоўская школа можа яшчэ мець дадатні уплыў на разьвіцьцё беларускай царкоўнай музыкі. Куліковіч аддае пашану генію А. Кастальскага, які у пачатку гэтага стагодзьдзя узначальваў рэформу маскоўскай царкоўнай музыкі і прапагаваў зварот да аўтэнтычнай народнай гарманізацыі старых напеваў. Было-б добра, калі-б сучасныя беларускія кампазытары пайшлі таксама у гэтым напрамку.

У 1959 г. паўстала думка сабраць і выдаць зборнік беларускіх літургічных напеваў. Гэты праект нарадзіўся пад уплывам падобнага пачыну, зробленага групаю маскоўскіх эміграцыйных кампазытараў, сярод якіх быў таксама ведамы знаўца маскоўскага Знаменнага расьпеву, прафэсар Мюнхэнскага Унівэрсытэту Іван Гарднэр. У сапраўднасьці гэта быў праф. Гарднэр, які першы падаў прапанову выдаць беларускі зборнік. Прапанова была прынятая прыхільна адпаведнымі царкоўнымі ўладамі. Першы том зборніка, у якім памешчана музыка для сьв. Літургіі, ужо у друку. Іншыя томы будуць сьледаваць за ім. Выхад у сьвет зборніка беларускай царкоўнай музыкі будзе бяз сумніву вялікай падзеяй. Першы раз у гісторыі кіраўнікі хораў будуць мець у сваіх руках кнігу з выключна беларускімі — старымі і новымі — напевамі. Гэта



*Хор беларускіх студентаў з Лювэну*



*Равенскі дырыгуе — у Лювэне*

[70] Гл. першыя спробы прапановаў у гэтым напрамку: М. Куліковіч, «Пытаньне беларускай Багаслужбы». Бацькаўшчына, № 12–13 (496–497), Мюнхэн 1960, бач. 3.

[71] Гл. Галькоўская, «З песьняй праз жыцьцё». Голас Радзімы, № 55 (639), Менск 1962, бач. 4.

[72] Собрат, «Митрофорный Протоиерей Петр Петрович Гуткевич». Церковный Вестник, № 9–10, Варшава, бач. 46.

будзе яшчэ адзін крок у напрамку адраджэньня беларускай царкоўнай музыкі.

Змаганьне за адраджэньне беларускага нацыянальнага стылю у царкоўнай музыцы ёсьць вельмі цяжкае. Амаль усе беларускія прыхадзкія хоры ўсё яшчэ любуюцца творамі ў нямецкамаскоўскім ці украінскім барокавым стылю, і старыя ўпярэджаньні адміраюць вельмі павольна. Тым ня менш трэба адзначыць, што аўтэнтычная беларуская царкоўная музыка ёсьць ужо у стане адраджэньня і наступнае дзесяцігодзьдзе можа быць рашучым у яе разьвіцьці. Ужо цяпер францускі студэнцкі хор сьв. Ірынэя у Парыжы (кіраўнік а. М. Давідзенкаў) пры розных нагодах у 1962 і 1963 г. сьпяваў у часе сьв. Літургіі беларускія напевы; а хор вучняў беларускае школы сьв. Кірыла Тураўскага у Лёндане сьпявае выключна беларускаю царкоўную музыку. Няма сумніву, што рух распачаты Равенскім у м. Лювэне з часам абыме ўсе беларускія хоры.

Было-б цікава разважыць, у якім напрамку павінны глядзець беларускія кампазытары у пошуках матарыялу для свае творчасьці. Самыя новыя пошукі адчынілі шырока дзьверы да скарбаў старой беларускай музыкі. Цяга беларускага народу да паліфанічнага сьпеву прывядзе з часам да пошукаў сьвежых стыляў гарманізацыі. Равенскі і Куліковіч паказалі дарогу да багатых крыніцаў беларускай народнай музыкі. Гэтая музыка была аднак у мінулым прадметам чужых уплываў (як напр. у Тэраўскага), якія ня ёсьць адпаведнымі для стварэньня арыгінальных твораў у сапраўды нацыянальным духу. Магчыма моладзь сяньняшняга дня знойдзе тое, што найбольш адказвае яе духу і імкненьням, у моцных формах народнага дысанансу, які ня можа ў сабе крыць нічога няпрыемнага для пакаленьня узгадованага на музыцы Стравінскага і Шонбэрга.

У мінулым Беларусь унесла вялікі ўклад у супольную літургічную спадчыну ўсходніх славянаў. Сяньняшнія кампазытары павінны зьвярнуць позіркі ізноў на яе старыя скарбы, якія захоўваюцца у Супрасьльскім Ірмалёгіёне і ў розных паралітургічных кантах і калядках і ў іх шукаць натхненьня для іхняй пачэснай задачы сьпяваць Госпаду новую песню (псалом. 95, верш I).[73]

*Г. Піхура*

[73] Канчаючы гэты артыкул аўтар жадае выразіць сваю удзячнасьць сп. Міхайлу Феакрытаву з Лёндану і праф. Гарднэру з Мюнхану за іхнюю сталую дапамогу і заахвочваньне; а таксама спадарыні М. Войталь з Парыжа за яе незаступімую помач у пошуках матар'ялаў (Г. П.).

# Прасьлед рэлігіі ў Беларусі

Апошнія весткі аб прасьледзе рэлігіі ў Сав. Беларусі вельмі трывожныя: паведамляюць, што ўзмацавана змаганьне з верай у Бога.

І здаецца, што яшчэ маюць узмацняць? Духоўныя сэмінарыі і кляштары пазачыняныя, няма аніаднаго каталіцкага біскупа, духавенства — па турмах і лягерах. Тыя сьвятары, што вярнуліся — пасьля 10-ці год лягеру, ня маюць свабоды руху і службы і жывуць у вельмі цяжкіх абставінах. Сьвятыні панішчаныя вайной, запушчаныя, або пазачыняныя . . . дык што яшчэ атэісты маюць у сваім гнёце «узмацняць?»

Хіба яшчэ кідаць хрысьціян на арэны дзікім зьвяром, як было за часоў Нэрана? — Але гэтага там не патрэба, калі самі бязбожнікі дзеюць горш дзікіх зьвяроў, рэклямуючы на ўвесь сьвет сваю «свабоду».

Новы праяў прасьледу рэлігіі — гэта ёсьць «закон аб савецкіх *абрадах і сьвятах*». Гэты закон тымчасам увайшоў у апрацоўку у Савеце Міністраў БССР дня 8. V. 1964. Але нам ужо ведама, што беларускія міністры ахвотна і паслушна правядуць усякія «законы», якія ім падкажа Масква.

Значыць, хрост, жанімства, паховіны — замест духоўных абрадаў, якія не дапускаюцца — будуць замененыя атэістычным падобным «набажэнствам» — з прамовамі, агітацыяй супраць рэлігіі, песьнямі, музыкай, кветкамі, танцамі і інш, (можа будуць і сьвечкі?).

Калісьці ў Беларусі была прымаўка: «Чорт убраўся у арнат, а хвастом на імшу звоніць» . . .



Праз тысячу гадоў наш народ жыў рэлігійным жыцьцём: меў свае рэлігійныя і народныя абрады, верыў у Бога і аддаваў Яму чэсьць. Розныя палітычныя рэжымы мешаліся ў справы веры і роднай мовы, але дасюль ніякая ўлада не забараняла верыць, маліцца і служыць Богу. Нават самі бальшавікі давалі — хоць агранічаную свабоду рэлігіі — аж пакрысе дайшлі да поўнага прасьледу.

Дзеля таго, што вырваць рэлігію з душы народу аказалася немагчыма, дык падступна імкнуцца замяніць нашыя абрады веры — сваей «паказной» рэлігіяй і цэрэмоніяй, нават больш бліскучай. Падобна, як галодным дзецям паказываюць маляваны хлеб, каўбасы, цукар, масла і г. д., гаворачы: «Пабачце, якая багатая Масква!»

Калісь нам, дзецям, расказывала бабуля, як д'ябал задумаў перахітрыць Бога і браўся стварыць чалавека: ляпіў, пэцкаўся, дзьмухаў — аж і выскачыў з ягоных лапаў «чалавек» — яшчэ больш рухавы і спрытны чым у Бога, але гэта была... *малпа!*

I Савет бязбожных міністраў хоча перахітрыць Бога: пачаў малпаваць рэлігію і тварыць свае абрады — больш гучныя і траскучыя, але гэтага ня прыйме народная беларуская душа.

*В. Гром.*

—✦—

# Адказ Менскага́ духавенства і Вернікаў

*Прасьлед* на Беларусі ўсялякай рэлігіі, а ў першую чаргу каталіцкай і праваслаўнай вядзецца бязупынна. Дзеля таго, што за часоў Хрушчова таму-сяму з заграніцы ўдалося пабываць і на Беларусі, вернікі скарысталі з нагоды і перадалі свае жалі і просьбы да Патрыархатаў у вольным сьвеце, каб за іх заступіліся. Гэтая просьба вернікаў з Беларусі выклікала даволі шырокае рэха ў прэсе францускай і ангельскай. Была яна такжа надрукавана ў «Бацькаўшчыне» (студзень-люты 1964 ў нум. 615-616).

Нядаўна ў «Голасе Радзімы» (чэрвень, 1964, н. 46), які рассылаецца ўсім Беларусам бяз іх просьбы, зьявілася дэклярацыя менскага духавенства і вернікаў у справе прасьледу рэлігіі на Беларусі. Падпісалі дэклярацыю прот. Аляксей Маеўскі, Архімандрыт Жыровіцкага манастыра Максім Кроха, благачынны магілёўскай акругі а. Міхал Булгакоў і было шэсьць прозьвішчаў вернікаў — 1 мужчына і 5 жанчын.

Варта крыху затрымацца над зьместам гэтай дэкляарацыі, якая — хаця і ў беларускай савецкай газэтцы і імкнецца даць выясьненьне ад імя Праваслаўнай Царквы Беларусі — напісана чамусьці *па расейску.*

Але заглянем у зьмест!

Аўтары дэкляарацыі прызнаюць, што заходнім турыстам быў перададзены *мэморыял-ліст,* хаця і называюць яго пасквілям, загадзя прыгатаваным.

Яны даслоўна кажуць: «Менская Беларуская епархія жыве поўнасьцю царкоўным жыцьцём.



Крыж на Беларускіх палёх

Яна зьяўляецца часткай Расейскай Праваслаўнай Царквы, галавой якой ёсьць Маскоўскі Патрыарх усей Русі...»

З гэтага выглядае, што быццам да шчасьця вернікаў і да «паўнаты царкоўнага жыцьця», трэба абавязкава належыць да Маскоўскай Патрыархіі (?). Але мы наймацней пераkананыя, што і Украінская і Беларуская Цэрквы гвалтам упісаны ў Маскоўскую Патрыархію і гэта вылучна *дзеля імпэр'ялістычнай палітыкі Масквы!*

Найбольш аднак важным і далікатным пунктам ёсьць тое, што яны у сваім адказе цьвердзяць, яко-бы на Беларусі *прасьледу* рэлігіі няма. I вось Менскае духавенства ў сваей дэкляарацыі гатова прысягнуць і раздзёрці на сабе адзежу (як Каяфа!), што ў успомненым мэморыяле зроблены «паклёп» і распаліваецца палітычная ненавісьць між Захадам і Усходам (?). Выходзіць на тое, што, калі хтосьці асьмеліцца сказаць праўду аб рэлігіі ў БССР, той дзеіць супраць Сав. Саюзу.

А што зачынілі ў Менску архірэйскую і інш. цэрквы — гэта аўтары дэкляарацыі тлумачаць патрэбай адбудовы зруйнаванага Менска!...

Але аб тым, што Менск у некалька разоў разросься і што ня выбудавана ні адной новай цэрквы для вернікаў, аўтары маўчаць. І аб тым, што зачынена у апошніх гадох сотні цэркваў ува ўсей Беларусі, аўтары дэклярацыі ня ўспамінаюць.

Адносна дзяцей і моладзі яны даюць гэткую сумную заяву: «*Праўда, царква — згодна з вымогамі законаў — не займаецца рэлігійным навучаньнем і ўзгадаваньнем дзяцей*».

Што гэтак яно ёсьць у Сав. Саюзе, мы ведаем здаўна; Сумнае ёсьць толькі тое, што аўтары дэклярацыі з гэтым фактам пагадзіліся, калі ня ў душы, дык прынамсі на паперы. Гэта-ж фармальнае адступніцтва ад загаду Хрыста — «Ідзіце і вучыце . . . !»

І дэклярацыя зусім ня прызнае дакананага факту, што зачынены Жыровіцкі манастыр і ўсе там — чатыры — цэрквы: яны кажуць: «Жыцьцё Жыровіцкага Сьвята-Усьпенскага манастыра функцыянуе зусім нармальна». Пытаем: Ці там далей існуе духоўная сэмінарыя?

У кожным выпадку ў «Журнале Маскоўскай Патрыярхіі» (1964, нум 3, бач. 24) сярод адрасоў духоўных акадэміяў і сэмінарыяў у Сав. Саюзе, адрасу Жыровіцкай сэмінарыі больш не падаюць.

На заканчэньне нам хацелася-б паставіць пытаньне: ці не пад прымусам Менскае духавенства і тыя бедныя жанчыны падпісалі нязгодную з праўдай дэкляpацыю? І да якой ступені распачы даведзены веручыя людзі Беларусі, калі адважыліся публічна выказаць сваё гора перад цэлым сьветам у тым славутым і адважным мэморыяле?! І што зь імі цяпер бязбожнікі зрабілі ? . .

Добра, што трагічнае палажэньне царквы ў Беларусі зацікавіла вольную прэсу. Газэты, радыё і тэлевізія павінны адразу падаваць усе весткі і кляймаваць новыя праявы прасьледу рэлігіі ў Савецкім Саюзе, асабліва ў Беларусі, дзе тэрор праяўляецца найбольш жорсткі.

*Д.*



# Памяці Пятра Сыча (1912-1964)

20 чэрвеня 1964 г. ў Мюнхэне памёр наш суродзіч Пятрусь Сыч. Гэты скромны навонках чалавек можа быць залічаны да найбольш адважных і шчырых дзеячоў на эміграцыі: пакінуў невялікую, але цікавую літэратурную спадчыну.



П. Сыч нарадзіўся 18. І. 1912 г. ў вёсцы Батурына, Вялейскага павету. Сяміклясовую школу скончыў у вёсцы Хаценьчыцы, а ў 1929 гімназію у Вялейцы. У наступным годзе паступіў на факультэт філязофіі Віленскага Ўнівэрсытэту, але пасьля двух гадоў — дзеля цяжкой хваробы маці ўдавы і дзеля цяжкіх матэр'яльных умоваў — мусіў яго пакінуць. Посьле працаваў у гміне ўрадоўцам. Ажаніўся і меў дачку.

У 1939 г. Сыч быў змабілізаваны ў польскую армію, падчас вайны трапіў у бальшавіцкі палон і там арыштаваны. Сядзеў у вялейскай турме і у чэрвені 1940 г. быў перавезены ў Полацк. Прысудзілі яму 10 г. лягеру. У верасьні 1940 вывезены ў Комі АССР, дзе прабыў год.

Як польскі грамадзянін ізноў трапіў у польскую армію і разам з ёй — праз Пэрсію, Ірак, Сырыю, Лібан, Палестыну, Егіпет прыбыў у Італію.

У польскім войску ён скончыў афіцэрскія курсы і ў баёх ля Монтэ Кассіно ў Італіі ён браў удзел як паручнік. Быў чатыры разы ранены, атрымаў некалькі брытыйскіх мэдаляў.

Пасьля вайны у 1946 г. разам з польскай арміяй прыехаў у В. Брытанію, дзе здэмабілізаваны ўлучыўся ў беларускую дзейнасьць. Будучы здольным да рысаваньня, П. Сыч зарабляў сабе на хлеб працуючы ў адней з фірмаў як выканаўца рысункаў для розных тэкстыльных матэр'ялаў.

Няраз здаралася яму засьмяяцца, калі спатыкаў у Лёндане ў падземцы незнаёмую жанчыну, якая мела на сабе сукенку з узорамі, якія ён запраектаваў.

У 1951 г. Пятрусь Сыч пераехаў у Нямеччыну, дзе праз нейкі час выдаваў гумарыстычны часапіс «Шарсьцень» (1952-1954), быў супрацоўнікам газэты «Бацькаўшчына» і беларускае рэдакцыі Радыё «Свабода».

19 чэрвеня 1964 г. пайшоў у шпіталь у Мюнхэне, каб падлячыцца і пасьля ўколу страціў раўнавагу духа і назаўтра — перавезены ў іншы шпіталь атрымаўшы абсалюцыю ад а. прот. Ул. Салаўя (на хвіліну тады дайшоў да прытомнасьці: хоць не гаварыў, але даваў знакі жалю і пакуты за грахі) і хутка памёр.

24 чэрвеня быў пахаваны Яго Даст. Біскупам Ч. Сіповічам пры саслужэньні а. пралата Салаўя і а. Мутуліса. Апрача ўсей беларускай мюнхэнскай калёніі на паховінах прысутнічалі Старшыня Рады БНР. Сп. Інж. Абрамчык, прадстаўнікі Радыя «Свабода» і шматлікія сябры пакойнага розных нацыянальнасьцяў.

Пятрусь Сыч, як блізу ўсе беларускія дзеячы, жыў у вельмі цяжкіх абставінах: спадарожнікам яго жыцьця былі недастатак, турмы, салдатчына, чужына, нездароўе, заблытаныя сямейныя адносіны.. Усё гэта спрычынялася да сумнага навыку — да піцьця і гэта бяз сумніву скараціла яго цэннае жыцьцё.

Ня гледзячы аднак на ўсё, Пятруся Сыча усе і ўсюды любілі як пісьменніка і як чалавека. Як сатырык ён быў незабыўны. Стыль яго сакавіты і зьмест, дзякуючы прыроджанай інтэлігенцыі і начытанасьці, заўсёды быў цікавы, а яго сатыра больш дамэтная чым едкая.

Вершы і расказы Сыча друкаваліся ў лёнданскіх выданьнях — «На шляху», «Беларус на чужыне», такжа ў «Божым Шляхам», у «Бацькаўшчыне» і ў кніжцы «Ля чужых берагоў» (Мюнхэн 1955). Такжа ў «Шарсьні», якога — як мы ўжо ўспаміналі — сам быў рэдактарам.

Сакавітасьць стылю П. Сыча часамі пераходзіла меру далікатнасьці і наш паэт лішне пахіляўся у пэсымізм. Магчыма — гэта быў уплыў на яго расейскага паэта Есеніна, якога ня выпускаў з рук і якога шмат вершаў знаў на памяць. —

Уканцы пару слоў аб рэлігійнасьці Сыча нагадаў і ў яго творах у асаблівасьці.

Абдараваны Богам вельмі чулай душой (ён няраз плакаў слухаючы прыгожую музыку, або гледзячы на мастацкі фільм), будучы адначасова скромным — бяз цені фарызэйства, Сыч ня любіў паказвацца набожным. Аднак яго ўзрушалі прыгожая літургія, моцнае слова прамоўцы і глыбокія тайны нашай веры. Ён выступаў супраць рэлігійнага падзелу, кляйміў царкоўныя спрэчкі.

Мы асьмелімся цьвердзіць, што пакінутыя Сычом расказы «Лёрэтанскія званы» і «Каляды на чужыне» трэба залічыць да пэрлаў беларускай літэратуры. Вялікую цэннасьць — асабліва пасьля яго трагічнай сьмерці — мае расказ: «1943. Бэтлеем, Базыліка Нараджэньня» (Ля чужых берагоў, бач. 225-6). Тут Пятрусь Сыч глыбінёй пражываньняў хрысьціянскіх праўдаў дараўнівае такім пісьменьнікам як Папіні ці Морыяк.

Ведама такжа зь якой чульлівасьцю наш паэт адносіўся да Маці Божай! Ня толькі сьведчаць аб гэтым «Лёрэтанскія званы», але яго пратэст супраць агіднага верша Максіма Танка «Авэ Марыя!» Прачытаўшы той верш Танка, Сыч сказаў: «Я ў сваім жыцьці мухі не забіў, але Танка за ягоны верш на асіне павесіў-бы!»

Сыч і ў сваіх найбольшых слабасьцях і пахібах любіў Бога, як умеў, а такжа меў асаблівы піэтызм да Божай Маці і мы ня сумневаемся, што Бог у Сваім міласэрдзі нагародзіць яго той вечнай красой і шчасьцем, да якога лятуцела яго змучаная чулая душа.

*а. Д.*

## *З паэзій Пётра Сыча*

### АСЕНЬНІЯ ЛІРЫКІ

Як пуста, сумна... Пад нагой
сухіх лістоў шапочуць кучы:
страсае шопат іх душой
галосным рэхам і балючым.

Ад сіняй пены верасоў
Ня вее ласкай, ні пацехай:
плач пералётных журавоў
зноў у душы адбіўся рэхам.

Ірвецца позірк за Дунай...
Душа ў настальгіі сьмяротнай,
Насустрач журавом, у Край,
ляціць дарогай паваротнай.

Як добра, што ў глыбокі мох
беспаваротна кануць сьлёзы,
што сьветкам быў іх толькі Бог
ды сумна ціхія бярозы.

Бярозы плакалі зы мной,
як непацешныя удовы,
і ўспаміналі, як вясной
быў сьвет вясёлы, каляровы.

Ды сьлёзы йржавыя бяроз
хапаў, разносіў вецер дзесьці.
Як добра, што маіх ён сьлёз
ня мог сабраць і ў даль панесьці! —

Нашто нячулы, жорсткі сьвет
сьмяяцца меў-бы, поўны злосьці,
што плакаў я, бы той паэт,
па вёснах, шчасьці, маладосьці...

## СЯБРУ-ПІЛІГРЫМУ

Праходзе ноч, мінае дзень —
Душа скрыгоча з боляў...
Ня ружы, а калючы цернь
Ў вянок ўпляла нам доля.

Сэрца крывёй, а твар сьлязой
Зрашаем бяз упынку,
Калі пуцінаю чужой
Брыдзём без адпачынку.

Няшчасны край — наш родны кут,
І Брат, што там астаўся,
Таёмным плачам, звонам пут
Завуць — каб ты змагаўся:

Сьцярпі, мой Брат, змагай боль, жах
І вер у заўтра сяньня!
Цераз Галгофу толькі шлях
Да Зьмёртвых-паустаньня...

## ЗА МАЛА...

У вечнай пагоні за хлебам
І так, як-бы Богу ў дакор,
За мала глядзім мы у неба,
За мала шукаем мы зор:

За мала мы сонца праменьняў
Хапаем у прызмы вачэй,
За мала ў нас будзяць натхненьняў
Лугі, краскі, лес, салавай...

Наш дзень так сьцюдзёны і шэры,
Хоць блескі наўкруг і цяпло:
За мала у шчасьце мы верым —
Хоць блізка ня раз так было...

З малітвы, ці з матчынай ласкі,
З блакітаў, прыязьні людзкой,
З навукі ці з дробненькай краскі
Плыло да нас шчасьце ракой.

А мы нейкіх скарбаў шукаем,
Да зводнай Калхіды плывём,
На медзь скарбы душ разьмяняем
І ўбожымся з кажным мы днём.

Здаецца — ўсё проста, магчыма:
Вось сэрцы шырэй адчыняць,
Пабегчы ў прасторы вачыма,
Вышэй галаву прыузняць...

Лістапад 1952



*Возера Сьвіцязь у Наваградчыне*

# *Весткі са сьвету*

РЫМ. — ПРАЦЭСІЯ БОЖАГА ЦЕЛА паўсюдна людзям падабаецца, нават у паганскіх краёх людзі з вялікай цікавасьцяй і павагай да такой урачыстай нашай працэсіі прыглядаюцца — стаяць моўчкі ў глыбокай задуме.

Якраз 700 гадоў таму, як Рымскі Папа Урбан IV ўстанавіў гэтую ўрачыстасьць і працэсію. Сьвяты Тамаш з Аквіну улажыў тады ведамыя гымны „O, Salutaris Hostia“, „Tantum ergo“, а ў нас пяюцца тады пры аздобленых аўтарох — на рагох вуліцаў — чатыры Эванэліі.

Сёлета ў самым цэнтры Рыму была ўладжаная гэтая працэсія са Сьвятымі Дарамі на вялізнай прыгожай плошчы, дзе даўней была арэна-стадыён. Там калісьці рымскія цары ладзілі публічныя гульні для народу, спорт, гімнастыку і крывавыя змаганьні глядыятараў.

Калі абычаі рымскага народу развыдрэлі, калі збаламучаныя людзі ня любілі ні вайны, ні працы, а галодны пролетарыят дамагаўся «хлеба і цыркаў», тады выводзілі ім на пацеху злачынцаў і палонных, уганялі іх на арэну і пускалі на іх зморавых голадам і раздражненых дзікіх зьвяроў.

Дзеля таго, што злачынцаў і палонных не хапала, дык здумалі кідаць на арэну нявінных хрысьціян, якіх вінавацілі ў варожасьці да дзяржавы, ў шпіёнстве і ў найгоршых грахох.

Такім спосабам цары дагаджвалі збунтаванаму народу і замест хлеба давалі атракцыйныя відовішчы, як і цяпер робяць савецкія дэмагогі ў Беларусі, замяняючы хлеб мітынгамі, рэклямай, песьнямі, паказнымі судамі і інш. А цэрквы і касьцёлы замянілі турмамі.

Сёлета на тым самым пляцы і на арэне таго самага цырку, дзе тры вякі лілася кроў першых хрысьціянаў, Папа Павал VI нёс манстранцыю ў урачыстай працэсіі. Прысутнічала каля 200.000 народу, шмат біскупаў і сьвятароў, сярод якіх былі і прадстаўнікі Беларусаў. Акурат, калі Папа нёс Сьвятыя Дары, ліў буйны дождж, ніхто аднак не зьвяртаў на гэта ўвагі. Ўканцы, засьвяціла яснае сонейка: усе вернікі — на чале з італійскім прэм'ерам і міністрамі — выслухалі прамову Сьвятога Айца і атрымалі яго багаславенства.

Памысна здарылася, што ў гэтым часе цьвітуць прыгожыя олеандры, якія былі аздобай усяго пляцу і цудоўнай Божай працэсіі. Наўкол стаяў стары Рым у руінах, а новы Рым сабраўся, каб у малітве і пакуце аддаць чэсьць і хвалу праўдзіваму Богу.

**Прысутны а. Д.**

ВАТЫКАН. — КРЭМАЦЫЯ — ПАЛЕНЬНЕ ЦЕЛА ПАМЁРШЫХ. Дасюль у Каталіцкай Царкве не давалася згоды на крэмацыю памёршых, трэба было — паводле найстарэйшага абычаю — хаваць астанкі памёршых у зямлі, каб цела вярнулася ў зямлю, з якой род чалавечы паўстаў.

Дый сама людзкая натура здрыгаецца на такі гвалт над чалавекам, нават памёршым, каб кідаць яго у вагонь, асабліва, калі бязбожныя гітлероўцы тварылі такое звыш-зьверства над жывымі людзьмі, кідаючы іх у вагонь.

У апошнім часе Папа Павал VI аб'явіў біскупам цэлага сьвету, што гэтая забарона — дзеля паважных прычынаў — можа быць зьнятая. А прычыны вось якія: у некатарых краёх дзяржавы дамагаюцца паленьня трупаў у крэматорыях, напр., у Японіі. Такжа падчас заразы, землетрасеньня, ці інш. паважных прычынаў грамадзтва патрабуе зьнішчэньня трупаў у крэматорыі. Словам, Каталіцкая Царква аддае суд аб такіх справах самым біскупам у іхных дыэцэзіях.

✳

3-Я СЭСІЯ ВАТЫКАНСКАГА САБОРУ. 14-га верасьня сёлета пачнецца 3-я Сэсія II-га Ватык. Сабору. Некатарыя спэцыялісты гадаюць, што мае быць астатняя, аднак ніхто аб гэтым ня можа заручыцца, бо матар'ялу да працы асталося вельмі шмат:

1) Божае Аб'яуленьне, 2) Царква, аб Сьвятых і аб Божай Маці, 3) Пастырская місія біскупаў, 4) Усходняя Царква, 5) Місіі, 6) Экумэнізм і дадаткі аб свабодзе рэлігіі і аб жыдох, 7) Законнікі і законніцы, 8) Сьвятары, 9) Апостальства сьвецкіх людзей, 10) Жанімства, 11) Прыгатаваньне і фармацыя сьвятара, 12) Каталіцкія школы, 13) Прысутнасьць Царквы ў сяньняшнім сьвеце.

Вось бачым, які багаты зьмест працы чакае біскупаў — Айцоў Сабору! Тымчасам Камісіі працуюць вельмі энэргічна: праекты і пляны працы рассылаюцца біскупам усяго сьвету, каб прысылалі свае заўвагі адносна праектаў — такім чынам і паміж сэсіямі Сабор працуе ўсьцяж. Трэба спадзявацца, што гэты Сабор пачне вялікія рэформы духовыя і вонкавыя ў хрысьціянстве — на большую хвалу Госпада Бога і каб ратаваць сьвет ад катастрофы, якая магла-б здарыцца.

Да нашых часоў чалавецтва шукала апошняй разьвязкі труднасьцяў у войнах і рэвалюцыях. Цяпер спадзяюцца перамогі ў атамных бомбах, але тады будзе перамога агню і попелу над жыцьцём чалавецтва . . .

Мы павінны праканацца, што толькі ў Богу, у людзкім розуме і ў добрай волі ёсьць ратунак у няшчасьці — толькі гэтак трэба даходзіць да **згоды.**

КАРЭЯ. У паўночна-ўсходняй Азіі вырастае поўабтока на падабенства як Флёрыда з Амэрыкі: лучыцца з Сібірам і з Кітаем. Карэйцы — народ паходжаньня мангольскага і ня маюць нічога супольнага з Кітайцамі, апрача таго, што культуру і буддызм прынялі ад іх. Карэйцы выхаваліся ў атмасфэры буддызму і канфуцыянізму, а іх абычаі сталі шмат у чым падобныя да кітайскіх. Аднак у апошніх часох рэлігія буддызму ўжо выялавела і зацёрлася. Душа карэйская патрабуе мацнейшага дзейніка — хрысьціянства, а найлепш — каталіцтва. — І вось каталіцкая рэлігія ў канцы 18-га веку пачала пранікаць у Карэю, аднак ня звычайнай дарогай, не праз місіянэраў, але праз сваіх людзей. Уласна ў Карэю былі прывезеныя кніжкі з Кітаю аб каталіцкай Царкве і карэйскія вучоныя зацікавіліся імі: пачалі чытаць, углыбляцца і — паводле Каталіцкай веры пачалі жыць; а галоўны правадыр І-Сэунг-Гоун пачаў адпраўляць набажэнства і спавядаць новых хрысьціян.

І вось раптам гэты «самасьвят» даведаўся, што незаконна сам сябе зрабіў сьвятаром! Тады напісаў таёмны ліст у Пэкін да каталіцкага біскупа і прызнаўся да сваіх памылак. Але толькі пасьля 10-ці гадоў мог прыехаць у Карэю першы каталіцкі сьвятар кітаец, Якуб Т'еу, дый гэты мусіў жыць і працаваць таёмна, бо трываў ужо жосткі прасьлед хрысьціянства. Якуб Т'ёу прабыў толькі пяць гадоў і быў асуджаны на сьмерць.

Так прасьлед хрысьціян, асабліва каталікоў, трываў блізка цэлы век. Ня маючы сьвятароў, самі сябе спавядалі. Чыталі эванэлію, хаваліся ў горах і не пакідалі веры. У 1836 г. праніклі зноў тры сьвятары з Кітаю, але і гэтыя былі замучаныя пасьля трох гадоў. З траіх маладых людзей, якія ўцяклі заграніцу, каб стаць сьвятарамі, адзін вярнуўся — ўжо пасьвячаны і мог адпраўляць сьв. Літургію для суродзічаў; аднак і ён пасьля аднаго году быў засуджаны на сьмерць: яму адсеклі галаву. Называўся Андрэй Кім.

Нарэшце ў 1888 г. быў аб'яўлены маніфэст — свабода рэлігіі!

Старыя хрысьціяне выйшлі з сваіх хаванак у горах і сталі місіянэрамі для ўсей Карэі. На бяду, родных сьвятароў ня было: трэба было іх яшчэ выгадаваць. Новыя місіянэры прыходзілі найбольш з Францыі; але каталіцкая вера пачала пашырацца. Цяпер пратэстанты павялі жывейшую дзейнасьць, асабліва праз школы, у чым каталікі прыпазьніліся.

У 1909 г. Карэю занялі Японцы. Дзеля сваей імпэрыялістычнай палітыкі яны павялі варожую палітыку супраць каталіцтва: праўда, не прасьледавалі, але агітавалі і паніжалі каталіцтва, называючы яго «французкай верай». Мяшалі такжа выводзіць новых сьвятароў з паміж Карэйцаў. Дзеля гэтага усяго да Вялікай вайны лік каталікоў даходзіў толькі да 160.000. Апрача Вялікай вайны, Карэя перажыла яшчэ сваю вайну у 1950 г., ў рэзультаце якой Карэя падзялілася на Паўночную — камуністычную і Паўдзённую — вольную.

На паўночы (там 10 мільёнаў жых.) пачаўся нялюдзкі прасьлед веры і шмат каталікоў зьбегла на паўдзён. На паўдні 25 мільёнаў жых., а лік каталікоў даходзіць тут цяпер да 600.000.

*В. А.*

# З БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ

Англія

## ГАДАВЫ З'ЕЗД ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ

У сыботу 27-га чэрвеня у Лёндане адбыўся 18-ты Агульны З'езд сяброў Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі.

На З'езьдзе, акрамя сяброў з Лёндану, былі прысутныя прадстаўнікі з Брадфарду, Бірмінгам і Манчастар.

З дадатніх асягненьняў арганізацыі трэба ўспомніць стварэньне і рэгістрацыю Беларускага Харытатыўнага Фонду (Белёрашн Чарыты Траст), што дае Згуртаваньню большую свабоду ў разьвіцьці дапамаговай і асьветнай дзейнасьці, звальняючы яе адначасова ад аплаты падаткаў.

У новую Управу былі выбраныя: сп. Ул. Бутрымовіч — старшыня, а. А. Надсон і сп. Я. Міхалюк — заступнікі старшыні, сп. П. Навара — сакратар, сп. П. Асіповіч — скарбнік, сп. В. Тур і сп. А. Шацько — сябры.

*

## КУРС УСХОДНІХ СТУДЫЯЎ У МАНЧАСТАР

У сыботу 11-га і нядзелю 12-га красавіка ў Манчастар адбыўся «уік-энд» студыяў прысьвячаных пытаньням усходняга хрысьціянства. Курсам кіраваў а. А. Надсон. Курс быў прызначаны перадусім для настаўнікаў і студэнтаў. Асаблівае зацікаўленьне сярод слухачоў вызвалі даклады: «Новыя багаслоўскія плыні у Праваслаўнай Царкве» і «Сучаснае паложаньне Царквы у Савецкім Саюзе». У

нядзелю 12-га ліпня а. Надсон адслужыў для удзельнікаў курсу сьв. Літургію, на якой было прысутных таксама шмат беларусаў.

✳

## УЛАДЫКА ЧАСЛАЎ У ЛЁНДАНЕ

У сыботу 27-га чэрвеня вечарам беларусы ў Лёндане мелі радасьць вітаць дастойнага Уладыку Часлава Сіповіча, які прыехаў сюды на кароткі побыт з Рыму.

У нядзелю 28-га царква сьв. Пятра і Паўла у Мар'ян Гаўз была перапоўненая вернікамі, калі Дастойны Уладыка, у саслужэньні з а. Львом Гарошкам і а. А. Надсонам, служыў сьв. Літургію. Прыгожа сьпяваў хор вучняў школы сьв. Кірыла Тураўскага.

29-га чэрвеня, дзень сьв. Апосталаў Пятра і Паўла, зьўляецца царкоўным сьвятам беларускай царквы ў Лёндане. У гэтым годзе гэтае сьвята было асабліва ўрачыстым, бо перад сьв. Літургіяй Уладыка Часлаў высьвяціў у царкве новы аўтар. У сваім казаньні Уладыка гаварыў аб значэньні аўтара. Ён сказаў, што на ім кожны дзень будзе прыносіцца ахвяра сьв. Літургіі на славу Божую і за ўсіх, нават за тых, якія не зьяўляюцца прысутнымі ў гэтым сьвятым мейсцы. Далей Уладыка успомніў, як у 1948 годзе, будучы яшчэ сьвятаром, ён закладаў у Лёндане гэтую царкву і аддаў яе і усю сваю працу пад апеку сьвятых Апосталаў Пятра і Паўла. Ад гэтага часу вялікія Апосталы былі заўсёды ягонымі вернымі памочнікамі і заступнікамі. Сяньня, калі дзейнасьць разраслася і ўзьніклі новыя патрэбы, Уладыка захацеў распачаць у гэты дзень *фонд на пабудову новага будынку для школы сьв. Кірыла. Ён аддае гэты новы пачын пад апеку сьв. Апосталаў Пятра і Паўла. Сума патрэбная для гэтага ёсьць вялікая: 30 тысяч ангельскіх фунтаў.* Аднак дастойны Уладыка ня сумняецца, што пры падтрымцы усіх нашых прыяцеляў і прыхільнікаў на ўсім сьвеце і маючы такіх магутных заступнікаў у небе, гэты вялікі пачын будзе даведзены да шчасьлівага канца.

✳

## ГОСЬЦІ-ЧУЖЫНЦЫ Ў МАР'ЯН ГАЎЗ

Аседак Беларускай Каталіцкай Місіі ў Лёндане, Мар'ян Гаўз, ёсьць добра ведамы ня толькі сярод беларусаў, але і сярод шматлікіх чужынцаў, якія цікавяцца усходняхрысьціянскімі пытаньнямі. Дзеля гэтага ў нашай царкве сьв. Пятра і Паўла можна спаткаць побач з беларусамі шмат іншых асобаў розных нацыянальнасьцяў. Нярэдка цэлыя установы ці арганізацыі робяць спэцыяльныя экскурсіі ў Мар'ян Гаўз. Так, напрыклад, у чацьвер 14-га траўня Мар'ян Гаўз наведала экскурсія вучняў адной каталіцкай школы з паўднёвага Лёндану. Пару тыдняў раней там была група вучаніц з далёкага Ёрку.

У сыботу 23-га траўня у Мар'ян Гаўз была група сяброў Таварыства Сьвятога Яна Залатавуснага. Айцец Надсон зрабіў ім кароткі даклад аб гісторыі і дзейнасьці Місіі, адслужыў сьв. Літургію і паказаў царкву і бібліятэку.

У нядзелю 14-га чэрвеня ў Мар'ян Гаўз была група англіканскай моладзі пад кіраўніцтвам свайго капэляна.

Госьці-чужынцы прыходзяць у Мар'ян Гаўз дзеля рэлігійных мэтаў. Адначасова аднак яны даведваюцца нешта новага аб Беларусі і беларусах.

✳

## ПАНІХІДА ПА ПЯТРУ СЫЧУ

У нядзелю 5-га ліпеня Уладыка Часлаў Сіповіч, у саслужэньні з а. Львом Гарошкам і а. А. Надсонам, адслужылі паніхіду за упакой душы Пятра Сыча, які памёр раптоўна у Мюнхане два тыдні раней.

Памёршы першыя гады пасьля вайны правёў у Лёндане і быў добра ведамы сярод беларускай калёніі, дзе ўсе яго любілі і шанавалі. Дзеля гэтага царква была перапоўнена ягонымі прыяцелямі і сябрамі.

Уладыка Часлаў у сваей кароткай, але чулай прамове, даў вобраз памёршага, як чалавека, ахвярнага беларуса, здольнага пісьменьніка і шчырага сябры. Ён закончыў наступнымі славамі: «Хай Бог дасьць ягонай душы вечны супакой, а ягоная памяць будзе жыць доўга між намі».

✳

## ПРЫНЯЦЬЦЕ Ў ГОНАР СЬВЯТОГА АЙЦА

У сераду 1-га ліпеня Апостальскі Дэлегат у Англіі, архіепіскап І. Кардынале, ладзіў у Лёндане ў Клярыджэс Готэль прыняцьце з нагоды першых ўгодкаў каранацыі Папы Паўла VI-га. На прыняцьці былі прысутныя прымас Каталіцкай Царквы ў Англіі, Архіяпіскап Уэстмінстарскі Гінан і шмат іншых каталіцкх епіскапаў і высокіх царкоўных дастойнікаў. Былі там таксама Праваслаўны грэцкі архіепіскап Атэнагор Тыятырскі і Мітрапаліт Якаў Вірвос і англіканскія епіскапы Лёнданскі і Саўтуортскі. З сьвецкіх асабістасьцяў там былі міністры ангельскага ураду (між іншымі міністр замежных справаў Батлер і міністр фінансаў Сэльун-Ллёйд), Сябры парляманту (лідар апазыцыі Уілсон) і Ізбы Лёрдаў, амбасадары і прадстаўнікі амаль усіх дыпляматычных місіяў у Лёндане. Ад беларусаў на прыняцьці былі Дастойны Уладыка Часлаў Сіповіч і а. А. Надсон.

# З жыцьця школы сьв. Кірылы

КУПАЛЬЛЕ. Ня гледзячы на гарачы час іспытаў і на няпэўную ангельскую пагоду, вучні школы сьвятога Кірыла Тураўскага ў Лёндане годна адсьвяткавалі Купальле ў сваім школьным садзе. Было агромнае вогнішча, скокі праз агонь, сьпевы, музыка. Мы ўжо ня кажам аб усіх тых смачных рэчах, якія пякліся на агні... Ці было весела, хай чытачы судзяць самі з замешчаных здымкаў.





ЗАКАНЧЭНЬНЕ ШКОЛЬНАГА ГОДУ. Заканчэньне навучальнага году у Школе сьв. Кірыла адбылося ў сыботу 11-га ліпеня. Былі прысутныя Дастойны Уладыка Часлаў Сіповіч, Рэктар Беларускай Каталіцкай Місіі ў Англіі а. Леў Гарошка, бацькі і сваякі вучняў і шмат гасьцей з Лёндану і розных аколіцаў Англіі.

Адчыніў урачыстасьць кіраўнік школы а. Язэп Гэрмановіч, які прывітаў прысутных. Пасьля а. А. Надсон коратка сказаў аб посьпехах і цяжкасьцях школы ў мінулым годзе. Да посьпехаў школы ён залічыў перадусім высокі навучальны узровень вучняў, якія цяпер лічацца аднымі з лепшых вучняў у ангельскіх школах, дзе яны праходзяць нармальны курс навучаньня. Не забыў ён таксама успомніць аб спартовых посьпехах, якія былі вельмі значныя. Агулам вучні школы сьв. Кірыла на ангельскіх школьных спартовых спаборніцтвах атрымалі 4 залатыя мэдалі, адзін сярэбраны, а адзін з вучняў здабыў пугар і тытул «віктор людорум», г. зн. пераможца у ўсіх спартовых змаганьнях (Алесь Міхалюк). Айцец Надсон не гаварыў доўга аб посьпехах у галіне беларусаведы і мастацкай самадзейнасьці, бо аб гэтым прысутныя мелі нагоду судзіць крыху пазьней з выступаў саміх вучняў.

На заканчэньне прамоўца зазначыў, што навука, спорт, мастацкая самадзейнасьць ёсьць толькі часткамі суцэльнага узгадаваньня поўнавартаснага чалавека. Самі ў сабе яны маюць малую вартасьць, калі яны не разьвіваюцца на здаровай маральнай, хрысьціянскай аснове. Даць гэтую здаровую аснову з'яўляецца галоўнай мэтай кожнага ўзгадавацаў.

Дастойны Уладыка Часлаў раздаў нагароды вучням, якія гэтага заслужылі. Нагароду за найлепшую самастойную пісьмовую працу атрымаў Алесь Лошка. Міхась Гасьцееў атрымаў нагароду з музыкі, а Мікола Смаль — за найлепшы агульны поступ у навуцы і паводзінах.

На заканчэньне Уладыка сказаў некалькі словаў, у якіх ён выразіў задавальненьне з праробленай працы ў школе. Ён зьвярнуў увагу таксама, што галоўнай мэтай школы ёсьць узгадаваньне характару і таму дысцыпліна і добрыя паводзіны зьяўляюцца ня меньш важнымі, чым поступ у навуцы. *Уканцы Уладыка прыпомніў аб фондзе на пабудову новай школы,* які ён распачаў 29-га чэрвеня. Ён выразіў спадзяваньні, што ў гэтым пачыне атрымае гарачую падтрымку з боку бацькоў, прыяцеляў і шырокага кола беларускага грамадзтва.

Адсьпяваньнем мнагалецьця Уладыку закончылася першая афіцыяльная частка праграмы.

Мастацкая частка была вельмі багатай у гэтым годзе. Распачалася яна ансамблям жалеек, які адыграў «Лянок» і напеў старой прадзільнай песьні з Магілеўшчыны, запісанай у XVIII-тым стаг. нямецкім падарожнікам Шлегелем. Ансамбль жалеек ёсьць навасьцю у школе сьв. Кірыла. Ён быў створаны некалькі месяцаў таму назад і складаецца з малодшых вучняў. Кіруе ім «беларус па адаптацыі», Эдуард Уолш, адзіны ангельскі вучань у беларускай школе. Школьны хор выканаў пяць народных песьняў: «Ой у полі крынічанька», «На кладачцы, на гібенькай», «Зелянеюць, зелянеюць», «Ой, рэчанька, рэчанька» і «Сынок у мамкі». З дэкламацыяў трэба перадусім адзначыць паэму М. Маша-

ры «Сьмерць Кастуся Каліноўскага». У дэклямацыі паэмы бралі ўдзел вучні А. Лошка (Каліноўскі), М. Гасьцееў (судзьдзя), Ф. Сенькоўскі (пракурор) і А. Міхалюк (нарратар). Юры Хахолка мастацка прадэклямаваў па беларуску маналёг з Шэкспіравага Гамлета «Быць, ці ня быць». Эдуард Уолш сказаў вершык В. Адважнага «Дантыст», а Мікола Смаль – вынятак з паэмы Якуба Коласа «Новая Зямля» з разьдзелу «Дарэктар».

Найбольшым посьпехам цешылася аднак школьная аркестра. Яна таксама паўстала нядаўна і гэта быў яе першы выступ. Вось яе склад: А. Лошка – акардыён, Ф. Сенькоўскі – басэтля, М. Гасьцееў – клярнэт і П. Каўбаса – бубен. Аркестра адыграла «Лявоніху», «Ой, хмарыцца, дождж будзе» і «Польку Янку». На жаданьне прысутных яна павінна была паўтарыць «Лявоніху».

Урачыстасьць закончылася адсьпяваньнем песьні у чэсьць Найсьв. Багародзіцы «Маці наша добрая», якою вучні школы сьв. Кірыла штодзённа канчаюць свае вячэрнія малітвы.

Пасьля заканчэньня гасьцей чакала скромнае прыняцьце, у часе якога яны мелі нагоду аглядаць мастацкія творы вучняў, разьвешаныя на сьценах залі.

Хутка пасьля урачыстасьці школа апусьцела, бо ня толькі госьці, але і вучні раз'ехаліся на канікулы дахаты. Але не недоўга, бо у канцы ліпеня вучні маюць сабрацца ізноў, каб ехаць у Нямеччыну, дзе яны маюць правесьці разам два тыдні сваіх летніх канікулаў.

# Развага

ЭТЫКА ХРЫСТА, КАМУНЫ І КАПІТАЛУ:

ХРЫСТОС:

Я ёсьць *дарога, праўда і жыцьцё.*
Любі *бліжняга* як самога сябе!
Не *крадзі* і *не пажадай* нічога чужога!

СЬВ. ПАВАЛ АПОСТАЛ:

Усё — вашае, вы — Хрыстовыя, а Хрыстос — Божы.

ХРЫСТОС:

Хто узвысшаецца, будзе прыніжаны. Хто з вас ёсьць большы, хай будзе ўсіх слугою!

КАМУНА:

Я ёсьць праўда, дарога і... сьмерць буржуям!

Любі *сваіх,* а чужых — з атамнай *бомбай* у руках.

*Пажадай,* колькі хаця, але не крадзі нічога *камунальнага!*

Усё — *вашае,* але карысьць — *нашая.*

Хто ўзвысшаецца, камуна таго прынізіць. А хто хоча быць першым, той — шпіён і яго трэба расстрэляць.

КАПІТАЛ:

Мая праўда — бізнэс.

*Пажадай* як найбольш, але не крадзі нічога *майго!*

Усё — нашае і карысьць — нашая.

Хто хоча быць першым, няхай стараецца, але без капіталу нічога не парадзіць.



*Ансамбль жалеек*



*Школьная аркестра*



# ФЭЛЬЕТОН

Паспрачалася ўся дырэкцыя ў пекле, што лепшае — *капіталізм* ці *камунізм?*

*Люцыпар,* які найбольш ненавідзеў Бога, стаяў за камунізм, а *Бэльзэбуб* — менш злосны, але хітрэйшы — стаяў за капіталізм. Падзялілася ўсё пекла і сварыліся дзьве партыі.

— Слухайце мяне, дарагія праклятыя чэрці! — клікаў Люцыпар: — Камунізм для нас самая найкарысьнейшая партыя, яна ідзе па нашай пякельнай праграме: адракліся Бога, вынішчаюць рэлігію і Царкву. Пройдзе там адно пакаленьне і аб Богу забудуцуцца ўсе: тады запануе нашае поўнае царства на зямлі.

— Паслухайце мяне, паганыя чэрці! казаў Бэльзэбуб: — Я ўсё моцна абдумаў і праканаўся, што Люцыпар гамоніць бяз сэнсу: праўда, што камуна губіць веру ў Бога, але людзі ненавідзяць камуну, бо камуна перамагае *прымусам,* а прымус родзіць адпор і творыць мучанікаў. — Калі камунізм запануе на сьвеце, дык людзі так перамучацца, што — шукаючы ратунку — зноў павернуць да Бога — аж задрыжыць усё нашае пекла ! ! !

*Люцыпар:* — Вы аднак, чэрці, бойцеся, што тымчасам капіталізм увойдзе ў саюз з цэрквай і нам тады немагчыма будзе змагацца.

*Бэльзэбуб:* — Глупства Люцыпар гамоніць! Капіталізм за дурны і за лянівы на тое, каб служыць Богу разам з цэрквай. Капітал — гэта *бізнэс* і *гешэфт.* І людзям у дабрабыце зусім не захочацца ні маліцца, ні пасьціць, ні верыць у Бога — проста ў капіталізьме людзкія душы загніюць і папсуюцца да рэшты. Гэтак нашае пекла выйграе без вялікай фатыгі . . .

Тут усё пекла хацела даць брава, але пабаяліся Люцыпара, а сам Люцыпар спужаўся, што Бэльзэбуб можа ўзяць верх і стаць дыктатарам у пекле. — Заскрыгатаў Люцыпар зубамі — аж іскры пасыпаліся як з вулькану! — Чэрці спужаліся і змоўклі, а Люцыпар даў такую пастанову:

1. Тымчасам мусім захаваць і капіталізм і камунізм.

2. На Захадзе будзем успамагаць чысты капіталізм — ад мільянэраў аж да апошняга бедняка.

3 На Ўсходзе будзем успамагаць чысты камунізм і атэізм — аж да зьвярынай бязбожнасьці.

4. Абодвы бакі будзем гнаць да атамных бомбаў, а пасьля пабачым, што з гэтага будзе і скарыстаем у добрым часе.

Тут усе чэрці далі такое брава, што аглушылі ўвесь сьвет, а Бэльзэбуб барматаў: «Віш, халера-Люцыпар! Пераняў мае думкі, дый ізноў абдурыў мяне.

А Люцыпар крычаў: — Чэрці! спакушайце ўсіх людзей, каб сьвет грызься з сабою: успамагайце бізнэс і рэкляму на Захадзе, а тэрор і фальш на Ўсходзе, дык убачыце, што сьвет будзе ў нашых лапах! . . .

— Брава, брава! — крычалі чэрці, а на зямлі было землетрасеньне і страшэнныя буры.

*В. А.*



## ДУМКІ З КНІЖАК ДЖ. ПАПІНІ

Паэт, які быў-бы здаволены са сьвету — ён не паэт.

Усе паэты, асабліва хрысьціянскія, адчувалі вечную патрэбу ўцячы з дачаснага сьвету і стварыць сваім мастацтвам уласны сьвет.

Трудная справа сапраўды любіць людзей.

Хто летні для Бога, будзе для людзей як лёд. Людзі павінны сабе зарабіць на неба, прабываючы на зямлі.

Дачаснае жыцьцё трывае коратка: у сваей істоце яно ёсьць цьвёрдым екзамінам, які трэба вытрымаць.

Блізка што ўсе людзі ведаюць, чым ёсьць дабро і чым зло, аднака-ж большая іх частка ня здольная ёсьць да дабра, а грэзьне ў злым.

✳

Людзі могуць толькі паспагадаць, але ўзяць на сябе частку людзкога гора ніхто ня хоча. (Як. Колас — «У Палескай глушы»).

✳

Мала таго чалавеку, калі шчасьлівы: яму трэба, каб іншыя ня былі шчасьлівыя.

Зло ў чалавеку хаваецца, калі бывае біты, але ў памыснасьці выходзіць наверх. (Морыяк).

✳

Ня можам з нашага жыцьця вырваць ані аднойбачыны, але кніжку ўкінуць у агонь можам. (Ж. Санд).



# ВІНЦЭСЬ КАРАТЫНСКІ

УВАГА РЭДАКЦЫІ: Зьмяшчаем верш *Вінцеся Каратынскага,* эміграмта пасьля паўстаньня 1863. Верш якраз *юбілейны — 100 год — 1864—1964.*

✳

Ой саколка, ой галубка!
Ня пытайся — не,
Што мне тошна, мая любка,
Ў гэтай старане...

Я-ж зямліцу меў радную,
Быў свабодзен сам!
Ох, ці днюю, ці начую, —
Я ўсё там ды там!

Там гукнеш ў сардэчным краю —
Разлягнецца сьвет.
Тут гукаю, прамаўляю —
Адгалоску нет...

Там палосы, сенажаці
Красны, як нідзе:
Стануць птушкі прыпеваці,
Ў сэрцы аж гудзе.

Там дзяўчаты на вячорні
Словейкам радным
Кажуць казкі, прыгаворкі,
Душа ліпнець к'ім.

Там дзяўчаты, маладзіцы —
Красен цьвет-тымян:
Глянеш толькі ім ў ачыцы,
Як ад мёду п'ян.

Там, як птушка на свабодзе
Я быў жыць прывык·
Ня пытаўся: «Мала? годзе?»
Быў вясёл і дзік.

Як дубочак маладзенькі,
Гібкі — проста віць,
З воч маланка вылятае,
Кроў агнём кіпіць!

Ах, цяпер-жа, ой палеткі
Роднага сяла,
Не пазналі-б тае кветкі,
Што там зацьвіла.

Паглядаю праз ваконца —
Чоран цэлы сьвет:
Усім людзям сьвеціць сонца,
Мне прасьветку нет.

Бо за мною, прада мною
Поўна Божых сёл, —
Ўсе ў грамадзе ды з раднёю,
Я адзін, як кол.

Адарвалі сіраціну
Ад сваей зямлі!
Даўшы розум, хараміну,
Шчасьця не далі...

Я ня сьмею прытуліцца
Ні к'яму, ні к'ёй,
Хараміна — чужаніца,
Розум — вораг мой.

Ад зарыцы да зарыцы
Туга кроў мне п'ець,
Пяюць хлопцы, маладзіцы, —
Я — ня ўмею пець...

Бо пры люлі родна маці
Мне ня пела дум:
Ў чыстым полі, для дзіцяці
Граў мне ветру шум.

Ой, ня будзе над радную,
Ды ня будзе нам,
Ці я днюю, ці начую, —
Там! Ой там! Ой там!

Саколачка, галубачка!
Хочаш мне памоч?
Дай маё мне, дай сялочка, —
Туга пойдзе проч...

✳

Вінцэс Каратынскі належаў да групы выдатнай беларускай шляхты, да якіх залічаем Вінц. Марцінкевіча, Аляксандра Рыпінскага і інш.

Да найпазьнейшых трэба залічыць Фр. Багушэвіча («Дудка Беларуская», «Смык Б.»), які дасягае ўжо да 20-га стагодзьдзя.

Найранейшыя з іх называлі сябе «Ліцьвінамі», грамадзянамі Вялікай Літвы, значыць, гістарычнай Літвы; а сваю беларускую мову называлі літоўскай. Аднак Ал. Рыпінскі і асабліва Фр. Багушэвіч выразна адзначалі, што нашая мова ёсьць *беларуская* і мы самі — *Беларусы.*

Наагул сьвет нас яшчэ мала знае і мяшае нас з другімі, але ня трэба гэтага баяцца, толькі трэба ўсім і ўсюды гаварыць аб сабе ясна, хто мы такія.

Вялікі паэт Адам Міцкевіч пісаў сваю паэму па польску, але пачаў яе словамі: «Літво, Ойчызна моя...» А ён-жа тады ўважаў Літву той краінай, якая гаварыла па беларуску, бо наўкол ягонага Наваградку Міцкевічаў было і ёсьць шмат тысяч — каталікоў і праваслаўных, якія летувіская мовы ніколі ня чулі. І ўжо таварышы Ад. Міцкевіча, як Чачот і інш., пісалі па беларуску, таксама Ул. Сыракомля (Людв. Кандратовіч).

Аб Ал. Рыпінскім будзе спэцыяльны артыкул у наступным нумары «Божым Шляхам»; такжа аб іншых нашых выдатных дзеячох, якія эміґравалі ў Вялікую Брытанію.

*Я. Савіцкі*

# З пісьмаў у Рэдакцыю

З УСХОДНЯЙ АЎСТРАЛІІ пішуць: — Работнік наш зарабляе 16 або 18 фунтаў стэрлінгаў у тыдзень, але усе жывуць цяпер дастатна. — Пішу з цёплага Квінслэнду, куды выбраўся раз у 10 гадоў на 2-тыднёвы адпачынак, як гэта бывае у добрых людзей. Нават не паехаў-бы з сваей добрай хаты, але хатнія выправілі, каб нэрвова адпачыў. Купацца тут цяпер крышку зазімна, але так досыць цёпла, хоць у Аўстраліі зіма: маладыя аднак купаюцца.

Аўстралія — вельмі багаты край: цёплы клімат, шмат зямлі здатнай да земляробства. Пшаніца, цукровы трасьнік, рыс, бавоўна, тытун, мільёны авец і кароў, капальні наземнага вугля, зялеза, лясы — гэта ўсё тут ёсьць. Людзі працуюць умеру, а беднаты зусім няма. І няма безработных.

Старыя — пасьля 60-ці гадоў — атрымліваюць $5^1/_2$ ф. і могуць трымаць хоць і 10 кароў, сьвіней, курэй без падатку. Хворыя і безработныя атрымліваюць 5 і $^2/_3$ фунтаў ст. у тыдзень, а пражыцьцё каштуе 3 фунты. На жонку і дзяцей также даюць дапамогу.

На 12 мільёнаў людзей мы маем 3 з палавінай мільёнаў самаходаў, а толькі 22 тысячы жаўнераў (ахвотнікаў).

З пашанай Я. Г.

✳

СЫДНЭЙ, 16. V. 64. — З нагоды 100 гадоў ад сьмерці кіраўніка Студнёвага Паўстаньня, Кастуся Каліноўскага, сябры Беларускага Аб'еднаньня зладзілі урачысты вечар, на якім Сп. Др. Мэд. Я. Малецкі прачытаў зьмястоўны рэфэрат. Прэлегэнт нязьбіта выказаў, што сапраўдным бацькам нашага палітычнага і культурнага адраджэньня і быў К. Каліноўскі. Ён першы узнавіў нашае друкаванае слова, першы заклікаў сялян і дробную шляхту да навукі, да рэлігійнай і палітычнай актыўнасьці — да працы на карысьць беларускага народу.

Ён першы кінуў кліч вызваленьня нашай Бацькаўшчыны ад расейскага прыгнёту. Першы прызнаў зямлю селянам бяз выкупу і сам, як магутны духовы асілак, годна і пасьлядоўна аддаў сваё маладое жыцьцё за нашую культуральную, палітычную і рэлігійную незалежнасьць.

Традыцыйны беларускі пачастунак злучыў прысутных у адну вялікую сям'ю. Людзі з Горадня, Магілёва, Віцебска чуліся роднымі на чужыне: іх лучыла ня толькі адна мова, але і вялікая ідэя нашага Кастуся Каліноўскага!

✳

ПАЎДЗ. АЎСТРАЛІЯ: — Хачу Вам павядоміць і падзякаваць за часапіс «Божым Шляхам». Вельмі мне падабаўся. Мае шмат навучнага матар'ялу і цікавага. Хаця-ж я сам ёсьць праваслаўны, але мы не маем праваслаўных айцоў, якія-б пісалі. Каталікі беларусы ходзяць тут у польскі касьцёл. Высылаю Вам грошы на часапіс.

З пашанаю Х. З.

✳

КАЛІФОРНІЯ, 6. VII. 1964. — ... ізноў залучаю два лісты ад сваіх родных. Яны — маладыя — хоць і зрусыфікаваныя, але рэлігійна утрымаліся і да тых камсамолаў не належаць. Бедны там наш народ, асабліва селяне і нашая моладзь на гэных будовах — усюды хапае нашай моладзі, а на Беларусі пустэча. Перш мы пісалі да іх па польску, бо беларусаў там прасьледуюць. Вось яны адзін раз напісалі нам па беларуску, але такой ламанай мовай, дый высказалі, што ім беларуская мова не падабаецца... Хоць асьцярожна, але мы добра за гэтае прабралі іх і цяпер пішам па беларуску.

Мы тут з вольных краёў мусім ім памагаць...

Калі ласка, міласьці просім, загляньце у нашую сонечную Каліфорнію: клімат ідэальны, якраз адпаведны для Вас!

Вельмі шкада і сумна, што памёр Сьв. Пам. П. Сыч: няхай будзе яму вечны супакой! Бедны, шмат бачыў цяжкога у сваім жыцьці: меў добрае сэрца і быў здольным чалавекам. Шкада і ягонай жонкі: шмат памагала лекамі маім сябрам — вельмі добрая жанчына.

Прывітаньні усім! Я добра ведаю а. Гарошку і цешыць нас, што ягонае здароўе папраўілася.

З глыбокай пашанай Х-кі

✳

ВЕСТКІ З САВЕЦКАЙ БЕЛАРУСІ (з залучаных лістоў з пад Налібоцкай Пушчы): — ... мы садзілі бульбу пад лапату: пасадзілі 15 сотак, а ў тым ліку градку цыбулі, градку буракоў, крышачку радыскі і пакінулі куток пад агуркі, словам, усяго пакрысе. А бульбу садзілі як пад плуг: я з татам капалі, а мама натрасала гной і за намі садзіла. І так кожны дзянёк работа пасоўвалася.

(Увага Рэдакцыі: Трэба ведаць, што цэлымі днямі там працуюць у калгасе, а толькі дадня, ці у начы працуюць на сваіх гародчыках, «сотках»).

Як прайшло пару дзён, мы турбаваліся у лесе: мы узялі маленькую палосачку у лесе-маладняку, які трэба было прарэдзіць — так і сабе крыху дроў прызапасілі. Наш даўнейшы лес уласны пайшоў у калгас і блізка увесь вырубаны, але яшчэ шмат маладняку, дый гэта усё дзяржаўнае і без дазволу нельга браць сабе нічога.

Мы пасылку дасталі ад Вас і якраз перад сьвятам «Сёмухі». Усё было у парадку, за выняткам драбязы, але і мне з таго крыху пакінулі. Толькі

нашто ты перапрашаеш за малыя падаркі? Ты ведаеш, што тут за гэтае пальто трэба было-б 250 рублёў – вось і папрабуй згараваць такую суму!

Хачу табе сказаць, што пальто мне падыйшло – крышку мехаватае, значыць, шыракаватае, дый у плячах добра, а тут толькі перашыць гузікі. Ну, і чутку даўгаватае, але можна падвярнуць, а рукавы караткаватыя, дык можна адвярнуць і гэтак будзе дасканальна!.. Такое пальто справіць – нельга і падумаць – гэта ува сьне толькі. Кафтанічак таксама харошэнькі і боцікі акуратныя, а шаль да паліта вельмі гарманіруе. Так што у мяне адзежы, дай Божа, кожнаму! але прадаваць штоколечы мне вельмі шкада, бо мне самой падыходзіць. А я нашу акуратна і ўсё берагу...

Тата і мама вамі вельмі здаволены і вамі ганарацца.

Цалуем Вас і дзякуем за пасылку!

Вашыя Б. і М.

20. V. 1964.

*

АНГЛІЯ–ВАЛІЯ: – Вельмі Паважаны Ойча Рэдактар! У залучэньні пасылаю Вам належнасьць за «Божым Шляхам» – за цэлы год. Выбачайце, што стрымаўся з перасылкай належнасьці – хварэю, ды і старасьць прылажылася да гэтага.

Цешуся вельмі, што БШл. пачало выходзіць, дый зноў у добрай беларускай мове. Жыву сярод чужынцаў і для мяне беларускае слова мае вялікае значэньне. Ёсьць тутака трохі братоў-Беларусаў, але пагутарыць у роднай мове з іх ахвотнікаў няшмат.

Хай Бог дапамагае Вам у працы, хай дае сілы і здароўя – для нашай справы і нашай гаротнай Бацькаўшчыны.

З пашанай для Вас Н. С.

8. VII. 1964.

*

ПАВАЖАНЫ АЙЦЕЦ!

За ліст дзякую. Цікава, што гэта было-б, каб Айцец меў мільёны? Мусіць нігдзе доўга не затрымаўся-б, а езьдзіў-бы наўкол сьвету і ня меў-бы часу нічога пісаць... Пакуль яшчэ Айцец у Англіі, то прашу, калі на гэта будзе час і магчымасьць, дастаць там месячнік, ці тыднёвік «Непадлегласьць», у якім шмат пісана пра Пілсудзкага і там ёсьць немала пра Беларусь і Беларусаў.

Што ў Вас новага? Ці праўда, што Украінцы хочуць Беларусаў-каталікоў загарнуць пад сваю апеку? Не паддавайцеся!

Учора Вам выслана ад В. 5 дал., а пры гэтым ад сябе далучаю 2 дал.

18 гэтага месяца прыпадае гадавіна сьмерці майго бацькі: прашу пры Сьв. Літургіі ўспомніць маіх бацькоў Язэпа і Ганьку, а такжа сястру Магду.

7. VII. 1964. Chicago.

З пашанаю Я. Чарнэцкі

*

ПАРЫЖ: – Salve, Magister! Прыйміце маё прывітаньне і Бог дай помач і «Няхай будзе пахвалёны!» Перапрашаю Вас, мой дарагі Настаўнік, за маё гультайства. Дзякую вельмі за Вашыя кніжкі, каторыя Вы пісалі аб сібірскай катарзе і вершы у другой кніжцы. Сібірскую катаргу я з увагай прачытаў. Сібір – гэта маё месца ураджэньня у горадзе Чыта. Мой тата і дзядзька Віктар Варановіч працавалі на будове Амурскіх зялезных дарог. Гарады, якія памятую трохі – гэта Благавешчанск і Хабароўск і станцыі Архара і Амазар. Мама Сібіру ня любіла. Хрышчаныя па праваслаўнаму абраду, а выхаваліся у каталіцкай атмасфэры. Бог адзін, а мы Яго дзеці.

Віктар Жаўняровіч

Mr. Victor Zolnierovicz.

54 rue du 18 Juin,

Gagny, Seine Oise. France.

---

## РАЗВАГА

Андрэй: — Як ты, суседзе, уважаеш? па-мойму сам здаровы розум паказывае, што Бог ёсьць. Бо як-жа ўсё на сьвеце само сабой зрабілася? як пасьля упарадкавалася, а пасьля ажывілася?...

*Баўтрамей:* — Розум — то адно, а чалавечая воля — гэта што другое: вось я добра ведаю, што ўпівацца не належыць. Пасьля стыдаюся аж ня маю куды падзець вачэй! а як прыйдзе аказія, ня стрымаюся...

*Андрэй:* — Ну, гэта іншая справа!

*Баўтрамей:* — Іншая, але падобная: чалавек таксама можа «ўпіцца» якой назойлівай ідэяй, як карты, спорт, ці што іншае. Так і атэізм атручывае людзей проста да сьмерці — аж самі ня ведаюць, што з імі дзеіцца! І пачынаюць вайну супраць Бога. Як той збунтаваны сэрафін, Люцыпар, які закрычаў. «Ня буду служыць! Буду роўны Найвышэйшаму...» Аж зваліўся ў вечнае пекла.

## ЗВАРОТ ДА ПАВАЖАНЫХ ЧЫТАЧОЎ

РЄДАКЦЫЯ ветліва прыпамінае ДАРАГІМ ЧЫТАЧАМ, што першыя 2-3 нумары «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» былі высыланыя як рэклямныя. Аднак значная частка нашых СУРОДЗІЧАЎ дабраахвотна прыслала аплату, зашто вельмі дзякуем!

Далей просім уважаць наступныя нумары «Божым Шляхам» як платныя і ласкава высылаць нам падпісную плату.

Грошы просім высылаць або на адрас РЭДАКЦЫІ, або на адрасы нашых КОЛЬПОРТЭРАЎ, як пададзена на вокладцы часапісу. — Хто высылае грошы ў лістох, ведама, крыху рызыкуе, але ангельская почта акуратна аддае лісты цэлыя і наагул грошы тут не прападаюць.

Чытачы, якія перасылалі нам свае заўвагі, прозьбы ці жаданьні, маглі заўважыць, што Рэдакцыя ахвотна прыймае да сэрца іх патрэбы і стараецца ўсё выканаць паводле магчымасьці. За добрае слова і помач шчыра дзякуем! Мусімо адзначыць, што ў палітычныя спрэчкі мяшацца ня будзем, на лаянкі не адпаведаем і артыкулаў палемічных прыймаць ня можам.

Жадаем упэўніць Чытачоў, што наш часапіс — пры Божай ласцы — будзе выходзіць бяз перапынку і без спазьненьня.

ДАРАГІМ ЧЫТАЧОМ жадаем ад Госпада Бога ўсяго найлепшага!

РЭДАКЦЫЯ «БОЖЫМ ШЛЯХАМ»

РЭДАКЦЫЯ перапрашае Паважаных Чытачоў, што н. 85-ты «Божым Шляхам» выйшаў *спозьнены з прычыны страйку почты.*



КНІЖКІ Ў РЭДАКЦЫІ:

- а. Я. Гэрмановіч — Успаміны — «Кітай-Сібір-Масква»
- І. Н. — Лемантар.
- Вінцук Аважны — Сучасная Казка — «Князь і Лапаць»
- Кс. К. Стэповіч — Голас Душы.
- а. Леў Гарошка — Св. Еўфрасіня-Прадслава Полацкая.
- Васіль Друя — Ты і Яна.

